ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 3 (52)

САКАВІК 1937 г.

ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК—1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР





# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 3 (52)

САКАВІК 1937 г.



ВЫДАННЕ КНГУ БССР
МЕНСК—1937

## Усім райінспектарам і акруговым кіраўніцтвам наргасучота

У сувязі з пачаткам вясенняй сяўбы асабліва значэнне набывае правільны і дакладны ўчот засеянай плошчы.

Аднак, як высвятлялася праверкай у мінулыя гады, з боку калгасаў, сельсоветаў і нават райземаддзелаў мелі месца факты прадстаўлення вочкаўцірацельскіх звестак аб выкананні плана сяўбы. Так, часта паведамлялася аб скачэнні сяўбы ў той час, як фактычна была засеяна не ўся плошча, вызначаная па плану. Часам такое вочкаўцірацельства нават падтрымлівалася райземаддзеламі пад выглядам таго, што „глеба падрыхтавана, насенне маецца, пакуль зводка дойдзе да Наркамзема, плошча будзе засеяна“. З другога боку, былі факты, калі звышпланавы пасеў (на плошчах ад раскарчовак, у лесе і т. д.) утойваўся і не паказваўся ў даных аб засеянай плошчы.

Як вочкаўцірацельскія пераўвялічаныя лічбы пасева, так і ўтойванне засеянай плошчы ад учота з'яўляюцца аднолькава недапушчальнымі.

Усе звесткі аб ходзе сяўбы калгасы і ўпаўнаважаныя сельсоветаў павінны даваць выключна на падставе дакладнага абмера засеянай плошчы.

Прадстаўляемыя сельсоветамі ў райземаддзел звесткі аб ходзе сяўбы (форма № 3) павінны грунтавацца выключна на звестках калгасаў і запісах у кніжках ф. № 17 сельупаўнаважаных (па неабагуленых пасевах). Складаемыя райземаддзелам зводкі па раёну павінны грунтавацца выключна на звестках сельсоветаў. У райземаддзеле павінны быць пісьмовыя звесткі ад сельсоветаў і абавязкова за подпісам старшыні сельсовета.

Наглядаюцца таксама і такія выпадкі, калі раённыя арганізацыі імкнуцца ўвесці прадстаўленне сельсоветамі і калгасамі штодзённых звестак аб ходзе сяўбы замест пяцідзённых, а таксама ўключыць у гэтыя звесткі дадатковыя паказчыкі.

Прапаную забяспечыць праз участковых інспектароў і асабістым удзелам праверку справаздачнасці аб ходзе сяўбы, прадстаўляемай калгасамі, сельсоветамі і райземаддзелам.

У выпадку выяўлення фактаў вочкаўцірацельства альбо парушэння ўстаноўленых форм і тэрмінаў для дачы звестак па сяўбе неадкладна прыцягваць вінаватых да адказнасці праз РВК і пракуратуру з паведамленнем КНГУ БССР.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Уладзімірскі.

Начальнік учотнай інспекцыі Магідаў.

# ВЫПІСКА

## з пратакола № 4 пасяджэння Совета Народных Камісараў БССР

*ад 26 сакавіка 1937 г.*

### Аб становішчы аперацыйнай справаздачнасці па сельскай гаспадарцы ў Лёзненскім раёне

На падставе матэрыялаў праведзенай Наркамземам праверкі пастаноўкі аперацыйнай справаздачнасці па сельскай гаспадарцы ў Лёзненскім раёне, Совет Народных Камісараў БССР адзначае, што ўчот і справаздачнасць у сельсоветах і калгасах, а таксама ў райЗА пастаўлен недапушчальна дрэнна.

У 6-ці праверaных сельсоветах (Высочанскім, Крынкаўскім, Выдрэйскім, Чэрніцкім, Лёзненскім і Кабыльніцкім) справаздачных звестак калгасаў за 1936 г. па сяўбе азімых, зяблевым ворыве і падрыхтоўцы да с.-г. кампаніі 1937 г. на большасць справаздачных тэрмінаў маецца не больш 50 проц., а ў Крынкаўскім сельсовеце даныя калгасаў ёсць толькі на два тэрміны—10/XII і 20/XII. Зводкі калгасаў без усякіх падстаў выпраўляюцца сельсоветамі (Крынкаўскі с./с.). Учот па аднаасобнаму сектару зусім не вядзецца.

Старшыні раду калгасаў і сельсоветаў сістэматычна давалі раённым арганізацыям няправільныя пераўвялічаныя звесткі аб выкананні с.-г. кампаній. Калгас „Авангард", Кабыльніцкага с/с., даў на 20/XII 1936 г. звесткі, што насення зернавых засыпана 172 цэнтнеры, між тым як фактычна было засыпана 152 цэнтнеры, зяблевага ворыва паказана 182 га, а фактычна было 145 га. Калгас імя Якаўлева, Глодынскага с/с., на 25/IX паведаміў с/совет аб пасеве 53 га азімага жыта, а фактычна было засеяна 37 га.

Крынкаўскі, Выдрэйскі, Глодынскі, Кабыльніцкі сельсоветы давалі зводку ў райЗА з пераўвелічэннем даных калгасаў на 100 і больш працантаў. Імкнучыся шляхам прамога ашуканства выйсці на першае месца, райЗА атрымоўваемых ад сельсоветаў звестак зусім не правяраў і ўводзіў у заблуджэнне вышэйстаячыя кіруючыя органы.

Азімая сяўба па Лёзненскаму раёну фактычна выканана на 89,8 проц. (па аперацыйных звестках райЗА на 98 проц.), недасеў 1227 га, а па асобных сельсоветах працант недасева яшчэ большы: па Глодынскаму с/совету фактычна пасеяна 65,2 проц. (а па звестках—105,7 проц.), па Бабінскаму с/с—68,3 проц. (па звестках 96,1 проц.), па Горбаўскаму с/с—81,1 проц. (а па звестках 94,2 проц.) і інш.

Усё гэта сведчыць аб тым, што прэзідыум Лёзненскага РВК і ў першую чаргу райЗА зусім не займаліся справай пастаноўкі правільнага ўчота і справаздачнасці ў калгасах і сельсоветах, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні партыі і ўрада.

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Загадчыку Лёзненскага райЗА т. Пастушонку за бяздзейнасць у справе пастаноўкі правільнага ўчота і справаздачнасці па калгасах і сельсоветах абвясціць суровую вымову.

Старшыні Лёзненскага РВК тав. Нейману за адсутнасць кантроля па наладжванню дзяржаўнага ўчота паставіць на від.

2. Прапанаваць прэзідыуму Лёзненскага РВК на падставе маючыхся матэрыялаў і дадатковай праверкі прыцягнуць да адказнасці старшынь сельсоветаў і калгасаў, вінаватых у сістэматычнай дачы заведама ілжывых звестак аб ходзе выканання сельскагаспадарчых кампаній.

3. Абавязаць прэзідыум Лёзненскага РВК неадкладна наладзіць правільны ўчот і справаздачнасць па сельскай гаспадарцы ў калгасах, сельсоветах і райЗА, абмеркаваўшы гэтае пытанне на паседжаннях прэзідыумаў сельсоветаў з удзелам праўленняў і актыва калгасаў.

4. Абавязаць старшынь АВК і РВК праверыць становішча справаздачнасці ў раёнах і забяспечыць узорную пастаноўку аперацыйнай справаздачнасці па сельскай гаспадарцы.

5. Прапанаваць НК земляробства правесці вясною 1937 г. суцэльны абмер усяго азімага кліна па Лёзненскаму раёну.

Нам. старшыні СНК БССР **А. Любовіч.**

## Старшыні Веткаўскага РВК, копія КНГУ БССР

Не гледзячы на нашы ўказанні ад 22/IV 1936 г. за № 225 і пастанову СНК БССР ад 3/III 1935 г. за № 287 аб забяспечанні інспектур народна-гаспадарчага ўчота гаспадарчым абслугоўваннем (*уборка, ацяпленне, асвятленне і карыстанне тэлефонам*), усё-ж такі і да гэтага часу інспектар вашага раёна не забяспечан тэлефонам і асвятленнем, што не дае магчымасці інспектуры праводзіць нармальна работу.

Кіраўніцтва спраў СНК БССР просіць стварыць адпаведныя ўмовы работы інспектару наргасучота і аб выніках паведаміць СНК БССР да 30/III 1937 г.

Кіраўнік спраў СНК БССР **І. Лук'янчык.**

## ЗАГАД № 212

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 19 сакавіка 1937 года*

Праведзенай праверкай становішча арганізацыйнай работы Мазырскага акруговага кіраўніцтва наргасучота выяўлен рад недахопаў, як напрыклад: работнікі акруговага кіраўніцтва перад выездам у раёны не інструктуюцца па прадстаячых да правядзення ўчотных работах, адсутнічае глыбокае вывучэнне работы райінспектур, паасобныя інспектуры (Лельчыцы) зусім не наведваюцца; не праводзяцца вытворчыя нарады работнікаў акруговага кіраўніцтва і раённых інспектур, у выніку чаго адсутнічае крытыка і самакрытыка як у акруговым кіраўніцтве, так і ў райінспектурах.

Загадваю:

1. Начальнікам акруговых кіраўніцтваў кожны раз перад правядзеннем учотна-статыстычных работ дэталёва інструктаваць усіх работнікаў кіраўніцтва.
2. Штомесячна праводзіць вытворчыя нарады работнікаў кіраўніцтва для падвядзення вынікаў работы мінулага месяца і абгаварэння плана работ на наступны месяц.
3. Штомесячна дасылаць планы работ акруговага кіраўніцтва ўчотнай інспекцыі КНГУ.
4. Выязджаючы ў раёны, вывучаць работу райінспектуры і ўчастковых інспектароў па ўсіх галінах, а не абмяжоўвацца правядзеннем адной работы; таксама не падменьваць раённага інспектара, а вывучаць на практыцы, як патрэбна праводзіць тую ці іншую ўчотную работу, і выкрываць памылкі, маючыяся ў іх рабоце, там-жа на месцы.
5. Даручыць учотнай інспекцыі праверыць у красавіку месяцы работу яшчэ аднаго акруговага кіраўніцтва і вынікі далажыць мне.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР **Владзімірскі.**

## ЗАГАД № 217

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 22 сакавіка 1937 года*

У мэтах правільнага скарыстання чарговага адпачынку работнікамі раённых інспектур і ўчастковымі інспектарамі без парушэння нармальнага ходу работы загадваю:

1. Усім раённым інспектарам скласці план чарговых адпачынкаў па ўсяму штату з такім разлікам, каб не пару-

шаць нармальнага ходу работы і строга прытрымліваццa складзенага плана.

2. План даслаць Учотнай інспекцыі КНГУ.

3. Папярэджваю, што за нескарыстаны адпачынак кампенсацыя выплачваццa не будзе.

4. Работнікам, не скарыстаўшым адпачынак у 1936 г., уключыць дадатковы адпачынак у 1937 г.

Нам. начальніка Кіраўніцтва наргасучота БССР Абудзееў.

## ЗАГАД № 222

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 26 сакавіка 1937 года*

Да гэтага часу паасобныя ўчастковыя інспектары не зразумелі ўсёй адказнасці, ускладзенай на органы наргасучота ў сэнсе своечасовага і добраякаснага выканання ўсіх учотна-статыстычных работ і ў асаблівасці адначасовых спецыяльных работ.

Фактам такой безадказнасці з'яўляюцца паводзіны ўчастковага інспектара Ушацкага раёна т. Собаля, І. В., які сарваў тэрмін правядзення адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва, у выніку чаго райінспектар быў вымушан перакінуць участковага інспектара другога ўчастка на выкананне паказанай работы па ўчастку т. Собаля.

За зрыў работы па адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва па ўчастку абвяшчаю ўчастковаму інспектару Собалю, І. В., суровую вымову і папярэджваю, што ў выпадку паўтарэння такіх адносін да даручаемай работы ён будзе зняты з работы.

Нам. начальніка Кіраўніцтва наргасучота БССР Шындлер.

## ЗАГАД № 209

### па Кіраўніцтву народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 20 сакавіка 1937 г.*

Згодна загада ЦУНХУ ад 19/III 1936 г. № 87 пры змене раённых інспектароў наргасучота павінны складацца прыёма-здатачныя акты.

Загадваю: складаць прыёма-здатачныя акты згодна прыкладаемага пры гэтым пераліку пытанняў да зацверджання сталага пераліку Цэнтральным кіраўніцтвам наргасучота.

Начальнік Кіраўніцтва наргасучота БССР Владзімірскі.

Пастанова СПА ад 10/II 1932 г.
№ 68, апублікаваная ў пісьме ЦУНХУ
№ 5—1936 г.

## Пералік пытанняў прыёма-здатачнага акта раённага ці гарадскога інспектара наргасучота

1) Склад штата рай(гор)інспектуры і ўчастковых інспектароў (скласці штатнае распісанне з паказаннем наяўнага склада работнікаў рай(гор)інспектуры і ўчастковых інспектароў, іх пасады і фактычна атрымліваемага аклада зарплаты).

2) Даныя аб ходзе выканання плана работ па рай(гор)інспектуры і ўчастковым інспектарам (асобна па кожнаму планаваму заданню).

3) Становішча запісаў у журнале ўчота асноўных паказчыкаў народна-гаспадарчага плана.

4) Фінансавае становішча: а) па крэдытах, адпускаемых КНГУ па пераводных патрабаваннях праз мясцовае аддзяленне Дзяржбанка: узяць даведку ад мясцовага аддзялення Дзяржбанка аб астачы сродкаў на дзень здачы па §§ і артыкулах і зверыць яе з астачамі крэдытаў па кнізе фінансавага ўчота і наяўнымі грашмі, знаходзячыміся на руках у рай(гор)інспектара; б) па падсправаздачных сумах, атрымліваемых непасрэдна ад КНГУ: праверыць астачу грошай на руках, а таксама выдатковыя дакументы, аплачаныя з атрыманых ад КНГУ авансавых сум, а астачу запазычанасці зверыць з ліцавым рахункам падсправаздачных сум бухгалтэрыі КНГУ.

5) Становішча маёмасці (скласці з натуры вопіс усяго інвентара і маёмасці і зверыць яго з запісамі ў кнізе ўчота інвентара, а таксама з данымі бухгалтэрыі КНГУ, у прыватнасці па адпушчаных КНГУ арыфмометрах, веласіпедах, пішучых машынках, крэдытах на набыццё коней, іх утрыманне, фураж і іншае.

6) Становішча разлікаў—праверыць запазычанасць: а) па зарплаце, прэміяльных, раз'язных, кватэрных і інш. работнікам рай(гор)інспектуры і ўчастковым інспектарам; б) мясцовым арганізацыям за фураж, карыстанне транспартам, канцэлярскія прылады і інш.; в) розныя адлічэнні па соцстраху, мясцкому, утрыманні па дзяржпазыках, падаходнаму падатку, культзбору, аліментах і інш.

7) Становішча ўчота па грашовых сродках і інвентару (праверыць са дня апошняй рэвізіі ці правільна вяліся запісы ў кнізе ўчота грашовых сродкаў і інвентара па прыбытку і выдатку ўсіх грашовых сродкаў, інвентара, маёмасці і матэрыялаў і ці адпавядае пастаноўка ўчота інструкцыі, змешчанай у паказанай кнізе).

8) Становішча справаводства і архіва (вопіс спраў—папак за бягучы і за мінулыя гады—па агульнай перапісцы і ўчотна-статыстычных матэрыялах пералічыць перапіску, па якой не дадзена адказаў на запытанні; скласці вопісь сакрэтнай перапіскі і сакрэтных статыстычных матэрыялаў).

9) Указаць у акце аб прыёме гербавай і сургучнай пячаткі.

## Да ведама раённых і ўчастковых інспектароў наргасучота

У сувязі з пастановай ЦВК і СНК СССР ад 21/III—37 г. „аб аслабленні сельскіх саветаў ад абавязкаў па вылічэнню і спагнанню грашовых падаткаў, страхавых плацяжоў і натуральных паставак з 1 ліпеня 1937 г." зразумела павінна змяніцца і сістэма ўчота па гэтых галінах.

У сучасны момант у НКФіне СССР і Камітэце загатовак пры СНК СССР распрацоўваюцца звязаныя з гэтым арганізацыйныя пытанні; зараз-жа пачнецца і сумесная распрацоўка ўчота.

Да 15 чэрвеня будуць спушчаны канчатковыя ўказанні да змен у гэтым учоце.

Учотная інспекцыя.

## Кіраўніцтву наргасучота БССР

Паведаміце ўсім райінспектарам, што ў інструкцыі па запаўненню сшытка „асноўныя паказчыкі выканання народнагаспадарчага плана раёна" ў раздзеле VII „ахова здароўя" маюцца наступныя апячаткі:

Старонка 23, радок 10 зверху, надрукавана: „жылфонда", трэба чытаць „эпідфонда".

Старонка 25, радкі 2, 5 і 8 зверху, надрукавана: „табл. № 61", трэба чытаць „табл. № 62".

Начальнік Аддзела бягучага ўчота ЦУНХУ Мендэльсон.

26 сакавіка 1937 г.
№ 17/300.

## ПРИКАЗ

## по Центральному управлению народно-хозяйственного учета Госплана СССР

*гор. Москва* *№ 93* *23 марта 1937 года*

§ 1.

В конце 1936 г. имел место следующий недопустимый факт:

Тов. *Зиновьев, Н. И.*, окончив в 1936 г. Московский институт народно-хозяйственного учета, в марте месяце

того-же года был направлен для работы по специальности, по согласованию с ним, в УНХУ Бурято-Монгольской АССР.

Получив под'емные, т. *Зиновьев* прибыл в г. Улан-Удэ, где приступил к работе в качестве начальника сектора учета капитального строительства УНХУ. Несмотря на крайне тяжелые жилищные условия в Улан-Удэ, УНХУ подыскало и предоставило т. *Зиновьеву* комнату с необходимой обстановкой, которую во все время его работы в Улан-Удэ УНХУ оплачивало за свой счет. Таким образом т. *Зиновьев* не мог пожаловаться на недостаточную заботу о нем и отсутствие надлежащих условий для работы. Между тем, т. *Зиновьев* к своей работе не относился с должным вниманием, в результате чего срочные работы по регистрации соцстроительства были провалены.

Отметив недопустимое состояние порученного т. *Зиновьеву* дела, начальник УНХУ тов. *Сатанин* предупредил т. *Зиновьева* об ответственности, которую он должен нести, и предложил срочно выправить работу. Вместо того, чтобы принять указания тов. *Сатанина* к исполнению и заняться работой, т. *Зиновьев*, не сдав дел и не предупредив начальника УНХУ, дезертировал.

Явившись в ЦУНХУ, т. *Зиновьев* заявил, что ему в Улан-Удэ не было предоставлено квартиры и что поэтому он там работать не мог. При тщательной проверке оказалось, что заявление тов. *Зиновьева* является лишь лживой отговоркой для оправдания своего дезертирства. На предложение сектора кадров ЦУНХУ ехать в Красноярск или в Казахстан на работу райинспектором, т. *Зиновьев* ответил категорическим отказом, говоря, что „он не для того окончил МИНХУ, что-бы быть райинспектором" и что „ЦУНХУ не имеет права послать его туда, куда он не хочет", и т. п.

В настоящее время выяснилось, что т. *Зиновьев* без ведома ЦУНХУ устроился на работу в Москве и работает ст. экономистом П.П. отдела велозавода.

Такое поведение т. *Зиновьева* является недопустимым проявлением несоветского отношения молодого специалиста к советскому государству и его органам, за счет которых *Зиновьев* получил свое образование и стал квалифицированным работником.

В точном соответствии с законодательством о правилах распределения и использования молодых специалистов и нарушением молодым специалистом этих правил (постановление ЦИК СССР, раз'яснение Верхсуда РСФСР от 3/II—34 г. и пленума Верхсуда СССР от 20/III—34 г. и статья 131 УК РСФСР) *Зиновьев* за свой недопустимый поступок подлежит привлечению к уголовной ответственности.

§ 2.

Принимая во внимание, что *Зиновьев* в своем письменном заявлении признает факт своего дезертирства, выражает раскаяние в своем тяжелом проступке и просит дать ему „возможность на работе показать, на что способны молодые специалисты“—приказываю:

1. *Зиновьеву*, *Н. И.*, за дезертирство и срыв порученной ему работы об'явить строгий выговор с предупреждением, с занесением в трудсписок.

2. Сектору кадров ЦУНХУ направить *Зиновьева* на работу на периферию с понижением в должности и с предупреждением начальника УНХУ, в распоряжение которого попадает *Зиновьев*, о необходимости учета в его дальнейшей работе указаний настоящего приказа.

Начальник Центрального управления народно-хозяйственного учета Госплана СССР **Краваль.**

## Аб пярвічным учоце ў сельсоветах

Праведзенай праверкай становішча пярвічнага ўчота ў сельсоветах паасобных раёнаў выяўлена, што справа гэта абстаіць вельмі дрэнна. У пераважнай частцы сельсоветаў зусім не заведзены журналы асноўных вытворчых паказчыкаў калгаса (ф. № 1), не занесена жывёла на 1/II—37 г., маюцца выпадкі, калі ў пагаспадарчых кнігах занесен толькі глава сям'і і т. д.

Такое становішча стварылася ў выніку таго, што раённыя і ўчастковыя інспектары, праводзячы спецыяльныя ўчотна-статыстычныя работы (перапіс насельніцтва, перапіс жывёлы, рэгістрацыя будаўніцтва і інш.), зусім не звarачвалі ўвагі на пярвічны ўчот у сельсоветах. Справа дайшла да таго, што, не гледзячы на загад начальніка Кіраўніцтва наргасучота аб тэрміновай праверцы пярвічнага ўчота ў сельсоветах і дасылцы ў КНГУ вынікаў праверкі да 15 сакавіка, на сёнешні дзень (5/IV) 72 раёны яшчэ гэту работу не правялі і не цікавяцца гэтай справай, а тыя раёны, якія правялі праверку (гл. прыкладаемую табліцу), абмяжоўваліся канстатацыяй фактаў дрэннай пастаноўкі ўчота, не прымаючы ніякіх мер праз прэзідыум РВК для палепшання гэтай справы.

Спасылкі раённых і ўчастковых інспектароў на тое, што спецыяльныя ўчотна-статыстычныя работы не давалі магчымасці заняцца справай пярвічнага ўчота, з'яўляюцца не абгрунтаванымі, так як правядзенне ўсякіх учотных работ звязана з наведваннем сельсоветаў і ў той час, калі ўчастковы інспектар наведвае сельсовет для правядзення той ці іншай работы, ён адначасова можа і павінен утварыць праверку пярвічнага ўчота.

Але гэтага ўчастковыя інспектары не робяць, а раённыя інспектары не патрабуюць ад участковых інспектароў гэтай работы.

Неабходна раз назаўсёды засвоіць кожнаму раённаму і ўчастковаму інспектару наргасучота, што адказнасць за своечасовае і правільнае вядзенне пярвічнага ўчота ў сельсоветах не здымаецца з органаў наргасучота, і наш абавязак сістэматычна сачыць і дапамагаць у наладжванні гэтай важнейшай учотнай справы.

Начальнік Учотнай інспекцыі КНГУ Магідаў.

## Абследванне прадукцыйнасці працы ў калгасах у 1937 г.

У бягучым годзе аддзел учота сельскай гаспадаркі ЦУНХУ ставіць работу па абследванню прадукцыйнасці працы ў калгасах.

Мэтай гэтага абследвання з'яўляецца:

а) выяўленне роста прадукцыйнасці працы ў галоўных галінах вытворчасці калгасаў—у паляводстве і прадукцыйнай жывёлагадоўлі;

б) выяўленне штогодных змен у выкарыстанні рабочай сілы ў абагуленай гаспадарцы калгасаў.

У БССР работа па абследванню прадукцыйнасці працы ў калгасах будзе арганізавана ў 61 калгасе 14 раёнаў, у якіх вядуцца бюджэтныя запісы па гаспадарках калгаснікаў.

Абследванне прадукцыйнасці працы ў галіне паляводства павінна ахапіць усе палявыя культуры, а па важнейшых відах культур—азімых, ранніх яравых, ільну і бульбе—абследванне затрат працы арганізуецца ў разрэзе асобных сельскагаспадарчых работ. Па іншых культурах затраты працы ўлічваюцца ў разрэзе каляндарных перыядаў без уліку затрат працы па асобных работах.

У калгаснай прадукцыйнай жывёлагадоўлі абследванне затрат працы арганізуецца ў спецыялізаваных фермах: буйнай рагатай жывёлы, свінагадоўчых і аўцагадоўчых, а таксама ў змешаных фермах з прадукцыйнай жывёлай.

Абследванне выкарыстоўвання працы будзе на працягу ўсяго году ўтварацца ў форме бягучых пяцідзённых запісаў аб ліку прапрацаваных дзён і ліку налічаных працадзён кожнаму калгасніку.

Арганізацыя работ на месцах ускладаецца на інструктароў КНГУ і раённых інспектароў НГУ.

У красавіку 1937 г. КНГУ арганізуе выезды ў вызначаныя раёны спецыяльных інструктароў для закладкі запісаў і запаўнення бланкаў за час з студзеня па сакавік. Адначасова работнікі КНГУ правядуць інструктаж райінспектароў НГУ і рахункаводаў калгасаў.

У далейшым, на працягу ўсяго году, бягучыя запісы па вызначанай праграме будуць утварацца па работах МТС асабіста самім раённым інспектарам НГУ альбо адным з найболып кваліфікаваных работнікаў інспектуры пад непасрэдным наглядам і кантролем райінспектара, а па работах, утвараемых самім калгасам,—рахункаводамі калгасаў.

Рахункаводы калгасаў за вядзенне запісаў па абследванню прадукцыйнасці працы ў калгасах атрымліваюць асобную аплату на падставе спецыяльна заключаных дагавароў.

Аплата рахункаводаў калгасаў утвараецца ў залежнасці ад ліку калгаснікаў, працаваўшых на працягу года ў абагуленай гаспадарцы.

Акрамя таго, за складанне ітогаў па вызначанай праграме, рахункаводам калгасаў будзе аплачвацца асобна ў залежнасці ад велічыні калгаса, якая будзе вызначацца агульнай пасеўнай плошчай.

У абавязкі райінспектара НГУ ўваходзіць:

1) вырашэнне ўсіх бягучых арганізацыйных пытанняў, узнікаючых на месцах;

2) вядзенне запісаў па ўстаноўленай праграме для работ МТС;

3) прыёмка матэрыялаў ад рахункаводаў калгасаў па спецыяльных даручэннях і праверка іх паўнаты;

4) высвятленне ўсіх спецыяльных пытанняў па запытаннях КНГУ;

5) заключэнне дагавароў з рахункаводамі і ўсе грашовыя разлікі з рахункаводамі і іншымі асобамі, якія выконваюць якія-небудзь заданні ў парадку дагавароў.

Распрацоўка матэрыялаў абследвання ўтвараецца ў КНГУ, дзе арганізуецца спецыяльная група.

Аддзел учота сельскай гаспадаркі КНГУ БССР.

## Усім інспектурам наргасучота

Правядзенне аднагасовага ўчота колькасці персанала і фондаў зарплаты патрабуе значнай чоткасці ў рабоце ўсяго апарата Наргасучота для таго, каб атрымаць сапраўдную лічбу колькасці персанала з правільным яго размеркаваннем па галінах працы.

Як паказвае атрыманы намі матэрыял, не ўсе райінспектуры зразумелі гэта. Паступаючы матэрыял не кантралюецца, і інспектура выконвае функцыі перасылачнага пункта.

Для таго, каб не падлічваць разам сталоўкі, інтэрнаты, яслі і дзетсады, якія паказваюцца ў адным радку падзела VI карткі № 1, 1-а і 4 і падзела I карткі № 6 і 6-а, КНГУ БССР былі даны ўказанні дырэктарам прадпрыемстваў аб пералічэнні гэтых устаноў, з указаннем колькасці персанала і фонду зарплаты па кожнай з іх, у заўвагах карткі.

Аднак, Клімавіцкая, Жыткавіцкая і Расонская інспектуры, відавочна, лічаць, што гэтыя ўказанні іх не датычацца. Так, Расонская інспектура накіравала картку па Шуляцінскаму ільназаводу за сакавік і не паказала, па якой канкрэтнай установе працуе 1 чал., паказаны ў 5 радку VI падзела карткі.

Жыткавіцкая райінспектура па МТС не паказала па радку 9 устаноў, у якіх працуюць 5 чалавек; таксама па Клімавіцкаму раёну, па соўгасу „16 партз'езд" (па радку 11—3 чалавекі).

Паказаным райінспектурам трэба неадкладна высветліць гэтыя пытанні і паведаміць у КНГУ для выпраўлення картак. Астатнім інспектурам трэба звярнуць асаблівую ўвагу на кантроль VI падзела картак 1, 1-а, 4 і I падзела картак 6 і 6-а і III падзела карткі 6-б.

Начальнік Аддзела ўчота працы КНГУ БССР **Антонава.**

7 красавіка 1937 г.

## Начальнікам акруговых КНГУ ўсім райінспектарам наргасучота

Згодна арганізацыйнага плана, з 1 красавіка райінспектуры пачалі збіраць матэрыял па адначасоваму ўчоту колькасці персанала і фондаў зарплаты за сакавік месяц 1937 года. Ужо на 5/IV паступіў матэрыял ад 11 раёнаў.

Не гледзячы на тое, што аддзел учота працы да 25/III паведаміў амаль усім інспектурам аб недахопах у складзеных імі спісах (за выключэннем спазніўшыхся інспектур), шэраг райінспектур, як відаць з прысланага матэрыяла, нават і пасля 1/IV не засвоілі інструкцыі і не выправілі спісаў у адпаведнасці з указаннямі аддзела.

Так, Свяцілавіцкая, Даманавіцкая і шэраг іншых райінспектур прадставілі матэрыял па ўстановах, якія не састаяць на раённым бюджэце (ашчадкаса, райАСО, комзаг СНК, пракуратура, нарсуд).

Халопеніцкая інспектура прадставіла зводку па млынтрэсту (па ўсіх млынах цалкам) і не прадставіла асобных картак на млыну; прычым справаздача па прадпрыемствах млынтрэста складзена па ф. № 8 замест ф. 1-б. Свяцілавіцкая, Халопеніцкая, Рагачоўская, Церахоўская, Брагінская, Смілавіцкая, Асвейская і Расонская райінспектуры сабралі праз участковых інспектароў ф. № 32, не забяспечыўшы адначасова складанне картак ф. 8-п на вячэрнія школы, ДСК, хаты-чытальні, работнікі якіх атрымліваюць зарплату ад сельсаветаў, што выклікае неабходнасць паўторнага наведвання сельсаветаў участковымі інспектарамі.

Шэраг інспектур запоўнілі на ветпункты і медпункты ф. № 74 замест уключэння ветпунктаў у ф. № 40 і складання на медпункты формы № 89.

Халопеніцкая інспектура наргасучота прадставіла ф. № 74 без указання нават назвы ўстановы, на якую яна складзена.

Значная колькасць раёнаў, прадставіўшых цалкам матэрыял па аддзелах РВК, не прадставіла карткі на райсовет фізкультуры.

Брагінская і Цярахоўская інспектуры зусім не запоўнілі графы 14 формы № 8 па інспектуры „фонд зарплаты посторонних лиц, не состоявших в списочном составе“, тады як выплаты іншым асобам у сувязі з перапісам насельніцтва, перапісам жывёлы і рэгістрацыяй будаўніцтва былі значныя.

Усе гэтыя недахопы сведчаць аб тым, што некаторыя інспектуры яшчэ добра не прапрацавалі інструкцыі, не выправілі спісаў А-1 і А-2, а таксама і не кантраліруюць матэрыялаў.

Раённым інспектарам неабходна звярнуць больш увагі на ўказанні інструкцыі і нашы тлумачэнні і, у першую чаргу, забяспечыць высылку справаздачнасці па ўстановах, падпарадкаваных РВК і састаячых на раённым і сельсовецкім бюджэце. Да 10 красавіка інспектуры павінны цалкам сабраць матэрыял ад устаноў і прадпрыемстваў па спісу А-1 і А-2, пракантраліраваць яго і накіраваць у КНГУ. З 10 красавіка трэба ўжо пераключыць участковых інспектароў на праверку своечасовай адсылкі картак установамі і прадпрыемствамі па спісу Б.

Адначасова аддзел напамінае, што трэба прасачыць за своечасовай адсылкай картак ф. № 1, 1-а, 6, 6-а, 6-б і 4 з абавязковым запаўненнем за 1 квартал падзела IV у картках 1, 1-а і 4.

Прапануем звярнуць увагу на неабходнасць пералічэння ў заўвагах картак 1, 1-а, 4, 6, 6-а і 6-б устаноў, якія ўключаны ў змешаныя групы (іншыя прадпрыемствы і установы).

Нач. Аддзела ўчота працы КНГУ БССР **Антонава.**

7/IV—37 г.

## Да ведама райінспектур

Пры вядзенні дасланых вам кніг па ўчоту бюджэтных сродкаў трэба кіравацца наступным:

1. Кароткія паказанні да вядзення кнігі маюцца ў пачатку яе.
2. У гэту кнігу запісваюцца толькі бюджэтныя сродкі,

якія знаходзяцца на вашым рахунку ў банку. Сродкі, атрымліваемыя праз пошту, у гэту кнігу не заносяцца, а павінны ўлічвацца ў асобным сшытку.

3. На кожны від выдаткаў па асобных артыкулах павінен адкрывацца асобны аркуш. У залежнасці ад колькасці аперацый трэба пакінуць для кожнага артыкула па некалькі старонак; так, напрыклад: для зарплаты—3 старонкі, для канцэлярскіх выдаткаў—3 старонкі, для перапісу насельніцтва па арт. 1-му—адну старонку, па арт. 20—адну старонку і т. д.

4. Для прыклада, як весці кнігу, вам дасылаецца ліст прыкладна зробленых запісаў па паасобных артыкулах.

5. Ведамасці на зарплату складаюцца асобна ад іншых выдаткаў. Ведамасці на выдачу беспадсправаздачных раз'язных складаюцца таксама асобна. Ведамасць на выдачу кватэрных—таксама асобна.

6. Канцпрылады павінны выдавацца райінспектурай участковым інспектарам натурай. На канцпрылады апраўдальным дакументам з'яўляецца толькі рахунак аб пакупцы іх. Некаторыя райінспектуры выдаюць участковым інспектарам грошы на канцвыдаткі па ведамасці без прадстаўлення справаздачы ці рахункаў. Папярэджваем, што такія ведамасці не будуць лічыцца як апраўдальны дакумент.

У дасланых вам бланках ведамасцей на зарплату і авансавых справаздач неабходна закрэсліць загаловак і надпісаць свой, так як гэтыя бланкі былі прызначаны для перапісу насельніцтва (напрыклад: „Ведамасць на зарплату за красавік месяц 1937 г. па Сенненскай райінспектуры НГУ).

Галоўны бухгалтар КНГУ БССР Бунімовіч.

# ПАСТАНОВА

## прэзідыума Бешанковіцкага раённага выканаўчага камітэта

*ад 13 сакавіка 1937 г.*

### Аб складанні асноўных паказчыкаў выканання народнагаспадарчага плана па раёну

Прэзідыум райвыканкома пастанаўляе:

1. З мэтай атрымання штомесячных паказчыкаў па выкананню народна-гаспадарчага плана ўсімі прадпрыемствамі раёна, абавязаць раённую інспектуру народна-гаспадарчага ўчота наладзіць штомесячнае складанне кан'юнктурных аглядаў па выкананню народна-гаспадарчага плана па раёну па ўсіх галінах, пачынаючы з першага студзеня 1937 года

па праграме Кіраўніцтва наргасучота БССР, і прадстаўляць прэзідыуму РВК не пазней 15 чысла наступнага за справаздачным месяца.

2. Прапанаваць дырэктарам Бешанковіцкага, Астровенскага і Ульскага ільназаводаў, старшыням усіх прамысловых арцелей, дырэктару млынарнага трэста, загадчыку сельгасмайстэрні, дырэктару цагельна-вапеннага завода, старшыні Райспажыўсаюза, дырэктарам МТС і загадчыку райЗА прадстаўляць у раённую інспектуру наргасучота не пазней 10 чысла кожнага месяца звесткі аб выкананні плана па іх галінах.

Старшыня РВК Палюшыс.

Ч. в. а. сакратара Семяніда.

## ПРАТАКОЛ

### Нарады ўчастковых інспектароў і работнікаў апарата Касцюковіцкай райінспектуры наргасучота

*28 сакавіка 1937 г.* *м. Касцюковічы*

Прысутнічалі: т.т. Лугаўцоў, Меськіна, Федосенка, Набелахаў, Сімакоў, Дземідаў, Братаноў, Лаўрыненка,—прадстаўнік КНГУ—Рубаха і практыканты: т.т. Кускоў і Ермакоў.

Старшыня нарады т. Лугаўцоў.

Сакратар т. Лаўрыненка.

Слухалі: Аб становішчы ўчотна-статыстычнай работы ў раёне і далейшых задачах.

*(Дакладчык т. Лугаўцоў)*

Выказаліся: т. Федосенка, Набелахаў, Лаўрыненка і Рубаха.

Пастанавілі: Адзначыць, што ў практыцы работы ўчінспектароў наглядаецца кампанейшчына, пад час учінспектары ператвараюць сябе ў пасыльнага. Атрыманыя матэрыялы з боку ўчінспектароў не падвяргаюцца крытыцы, лагічнай і дзелавой увязцы, не правяраецца матэрыял з пярвічнымі дакументамі, чаму часта прадстаўлены матэрыял у райінспектуру НГУ аказваецца нядобраякасным. Адгэтуль парушаюцца тэрміны распрацоўкі і прадстаўлення матэрыялаў па інстанцыях. З боку ўчінспектароў т.т. Братанова і Набелахава наглядаюцца бюракратычныя адносіны і сіміляраванне работай. Пры адначасовай рэгістрацыі будаўніцтва

дапушчаны грубыя парушэнні ўстаноўленага парадка. Замест правядзення асабістага інструктажа рахункаводаў калгасаў, яны рассылалі бланкі па пошце.

Т. Дземідаў пры рэгістрацыі прыватнага будаўніцтва перадаручыў гэту работу сакратарам сельсоветаў.

Рад учінспектароў зусім адарваліся ад грамадскай работы, не замацавалі сябе ў цэнтры ўчастка за грамадскімі арганізацыямі, не знаёмы з палітычнымі задачамі нашай краіны ў сучасны перыяд. Усе гэтыя адмоўныя бакі адбіваюцца на якасці работы і нашай прадукцыі.

Надалей усе ўчінспектары павінны пераключыць сваю работу так, каб яна была больш каштоўнай. Усе правадзімыя работы цесна ўвязваць з задачамі гаспадарчага жыцця раёна. Пры ўсякім абследванні пастаноўкі ўчота і справаздачнасці увязваць работу з грамадскімі арганізацыямі, скарыстоўваючы пасяджэнні праўленняў калгасаў і прэзідыумаў сельсоветаў.

Больш удзяляць увагі справаздачнасці калгасаў, якія яшчэ не ліквідавалі ўкараніўшыйся метад вочкаўцірацельства ва ўсіх работах. Зараз высвятляецца, што па такіх важных момантах, як злучная кампанія, сіласаванне, нарыхтоўка кармоў, уборка бульбы ў 1936 г., калгасы зусім беспадстаўна інфарміравалі раённыя арганізацыі і не давалі сапраўднага малюнка.

На наступнай чарговай нарадзе заслухаць даклады аб рабоце ўчінспектароў—т. Братанова і Дземідава з папярэднім абследваннем на месцы іх работы РІНГУ.

Слухалі: Інструктаж па работах справаздачнасці ферм за першы квартал і аднachасоваму ўчоту персанала і фондаў зарплаты.

Пастанавілі: Работы правесці строга ў вызначаныя тэрміны пры высокай якасці матэрыялу.

Слухалі: Аб павышэнні тэхмінімума ўчінспектароў і работнікаў РІНГУ.

Пастанавілі: Адзначыць, што КНГУ БССР недастаткова ўдзяляе ўвагі павышэнню кваліфікацыі работнікаў, адсутнічае забеспячэнне спецлітаратурай, газетамі і інш. Прасіць т. Владзімірскага звярнуць на гэта ўвагу і дапамагчы павышэнню кваліфікацыі нізавых работнікаў наргасучота

Старшыня нарады Лугаўцоў.

Сакратар Лаўрыненка.

## Тыповы план работ раённай інспектуры народна-гаспадарчага ўчота на II квартал 1937 года

| №№ п/п. | Тэма работы | У чым заключаецца работа раённага інспектара | Тэрмін правядзення работы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Устанаўленне размераў пасеўнай плошчы 1937 г. па культурах, гаспадарках і соўгасных сістэмах у раённым разрэзе па заключных справаздачах усіх с.-г. прадпрыемстваў і сельсоветаў і чэрвеньскі ўчот жывёлы. | Правядзенне падрыхтоўчых работ: складанне спісаў населеных пунктаў, інструктаж участковых інспектароў, калгасаў, соўгасаў, сельсоветаў і кантрольных брыгад, забеспячэнне бланкамі прадпрыемстваў і сельсоветаў.<br>Збіранне бланкаў па дзяржаўных гаспадарках, кантроль іх, складанне раённай зводкі, аналіз матэрыялаў і адсылка па ўстаноўленых адрасах. | Май, чэрвень (пераходзіць на ліпень) | Праз участковую інспектуру. |
| 2 | 15-дзённыя данясенні аб відах на ўраджай 1937 г. зерневых, тэхнічных, кармавых і гароднінных культур. | Запаўненне бланкаў па ацэнках ураджая райЗА, а таксама запаўненне даных, прадугледжаных планам, і адсылка бланкаў ва ўстаноўленыя адрасы. | Май—чэрвень | Таксама. |
| 3 | Квартальны ўчот калгасных таварных ферм за 1 кв. 1937 г. | Інструктаж участковых інспектароў па запаўненню справаздачных картак; нагляд за своечасовым прадстаўленнем квартальнай справаздачы, кантроль і праверка справаздачных даных; складанне зводкі даных квартальнай справаздачнасці, прадстаўленне матэрыялаў у КНГУ; інфармацыя раённым кіруючым арганізацыям аб рабоце ферм. | Красавік | |
| 4 | Учот колькасці рабочых і служачых і іх заработнай платы за сакавік 1937 г. | 1. Збор справаздачных картак па прадпрыемствах і ўстановах, падпарадкаваных РВК ці ў асобных выпадках па тых з прадпрыемстваў, не падпарадкаваных РВК, якія не прадставяць ва ўстаноўлены тэрмін картак у свой цэнтр ці КНГУ. | Да 15 красавіка | |

| №№ п/п. | Тэма работы | У чым заключаецца работа раённага інспектара | Тэрмін правядзення работы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | | 2. Прыняцце мер уздзейвічання ў адносіне прадпрыемстваў і ўстаноў, парушыўшых пастанову СНК СССР аб адначасовым учоце. | Да 15 красавіка | |
| | | 3. Дасканалы кантроль матэрыялаў і ўнясенне неабходных выпраўленняў, адсылка ў КНГУ. | Да 20 красавіка | |
| 5 | Заработная плата у буйнай прамысловасці, будаўніцтве, соўгасах і МТС за красавік—чэрвень месяцы. | Інструктаж прадпрыемстваў, соўгасаў, пабудоў і МТС. Збіранне картак, праверка і дасылка ў КНГУ. | Збор картак 10 чысла і дасылка ў КНГУ да 15 чысла наступнага месяца. | |
| 6 | Рэгістрацыя абагуленага жыллёвага фонда на 1/I—37 г. | Правядзенне рэгістрацыі ў горпаселішчах, пачаўшых яе пазней устаноўленага тэрміна, прыёмка і кантроль матэрыялаў у рай(гор)інспектурах і дасылка ў КНГУ. | Красавік | |
| 7 | Бягучая справаздачнасць аб уводзе ў эксплаатацыю комунальных пабудоў за 1-ы квартал. | Непасрэднае збіранне звестак ад пабудоў і горкомгасаў—праверка і адсылка ў ЦКНГУ (копія КНГУ). | Красавік | |
| 8 | Бягучая справаздачнасць аб уводзе ў эксплаатацыю пабудоў жыллёвых за 1-ы квартал. | Непасрэднае збіранне звестак ад запабудоўшчыкаў, зводка і адпраўка ў ЦКНГУ. | Красавік | |
| 9 | Пашпартызацыя гарадоў за 1936 год. | Складанне пашпарта на горад. | Май | |
| 10 | Бягучая рэгістрацыя будаўніцтва 1937 года. | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі. | Красавік—чэрвень | |
| 11 | Абследванне работы воднага транспарта іншых, апрача НКВода, арганізацый. | Рассылка бланкаў арганізацыям, інструктаж, нагляд за правільным запаўненнам бланкаў, збіранне і кантроль матэрыялаў і адсылка ў КНГУ. | Красавік—май | |

| №№ п/п. | Тэма работы | У чым заключаецца работа раённага інспектара | Тэрмін правядзення работы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 12 | Сельсовецкі ўчот і справаздачнасць сельсоветаў і райвыканкомаў. | а) праверыць, як сельсоветы правялі адкрыццё пагаспадарчых кніг і журнала калгаса ф. № 1 на 1937 г. і іншых кніг і спісаў пярвічнага ўчота (правільнасць і паўната запаўнення тытульнай часткі асабістага рахунка пагаспадарчых кніг і раздз. „спіс членаў сям'і гаспадаркі"); | Красавік | |
| | | б) праверыць, ці своечасова ўнесены ў пагаспадарчыя кнігі планы пасеву і планы развіцця жывёлагадоўлі; | Красавік | |
| | | в) унесці ў пагаспадарчыя кнігі жывёлу па даных перапісу жывёлы на 1/II—37 г.; | Красавік | |
| | | г) арганізаваць правядзенне інструктажа сельсоветаў аддзеламі райЗА, райФА аб вядзенні ўчота і справаздачнасці і прасачыць, каб сельсоветы былі забяспечаны ўсімі формамі і бланкамі ўчота і справаздачнасці; | Красавік | |
| | | д) сталая бягучая праверка становішча ўчота ў сельсоветах. | Красавік—чэрвень | |

Акрамя таго, у асобных гарадах і раёнах па спецыяльных указаннях аддзелу ўчота савецкага гандлю і насельніцтва і аховы здароўя КНГУ на гарадскіх і раённых інспектароў ускладаецца правядзенне наступных работ:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Штомесячны ўчот рэалізацыі сельскагаспадарчых прадуктаў на гарадскіх калгасных рынках. | Нагляд, інструктаж, кіраўніцтва работай участковых інспектароў, кантроль матэрыялаў, збіранне бланкаў па гораду і адсылка ў КНГУ. | Штомесячна | |
| 2 | Штомесячная рэгістрацыя цэн на гарадскіх калгасных рынках па 46 таварах і рэгістрацыя цэн на 5 і 15 числа па 15-ці таварах. | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі і адсылка матэрыялаў у КНГУ. | Штомесячна | |

| №№ п/п. | Тэма работы | У чым заключаецца работа раённага інспектара | Тэрмін правядзення работы | Увага |
|---|---|---|---|---|
| 3 | Бягучае абследванне міжраённых кірмашоў і перадсвяточных базараў. | Непасрэднае правядзенне абследванняў, праверка і адсылка матэрыялаў у КНГУ. | Красавік—чэрвень | |
| 4 | Штоквартальныя звесткі аб становішчы калгасных рынкаў. | Непасрэднае запаўненне бланка, праверка і адсылка ў КНГУ. | Красавік—чэрвень | |
| 5 | Рэгістрацыя розвічных цэн дзяржгандля на бульбу, гародніну, малочныя тавары і яйкі. | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі цэн і адсылка матэрыялаў у КНГУ і ЦКНГУ. | Штомесячна 25 числа | |
| 6 | Квартальны ўчот самадзейных сталовак. | Збіранне матэрыялаў, кантроль і адсылка ў КНГУ. | 10 красавіка (за I кварт. 1937 г.) | |
| 7 | Учот механічнага руху насельніцтва. | Даныя адрасных сталоў. | 5 числа кожнага м-ца | |
| 8 | Учот натуральнага руху насельніцтва. | Даныя ЗАГС'а. | 10 числа кожнага м-ца | |

## Ацэнка работы райінспектур наргасучота за сакавік месяц 1937 г.

| №№ па парадку | Назва раёнаў | Катэгорыя | Вядзенне кнігі асноўных паказчыкаў і дасылка ў КНГУ выпісак з яе | Праверка становішча пярвічнага ўчота ў сельсоветах | Учот працы | | | Складанне спісаў да аднячасовага ўчота | Цэны калгасн. гандлю | Рэалізацыя сельгасп. прадуктаў на калгасных базарах | Бюджэты | | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | У прамысл. | У будаўніцтве | У соўгасах і МТС | | | | Калгаснікаў | Рабочых | |
| 1 | Асвейскі . . . . | 2 | 4 | 5 | 5 | 3 | 5 | 4 | 5 | — | — | — | 4,4 |
| 2 | Асіпавіцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 2 | 2 | 3 | 4 | 4 | — | — | — | 2,1 |
| 3 | Бабруйскі . . . . | 2 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 3,8 |
| 4 | Багушэўскі . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 5 | 5 | 2 | 5 | — | — | — | 3,1 |
| 5 | Барысаўскі . . . | 2 | 0 | 5 | 4 | 4 | 4 | 5 | 4 | — | — | 5 | 3,8 |
| 6 | Бешанковіцкі . . | 2 | 4 | 5 | 4 | 4 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 3,8 |
| 7 | Брагінскі . . . . | 2 | 0 | 5 | 3 | 5 | 5 | 3 | 5 | — | 2 | — | 3,5 |
| 8 | Буда-Кашалеўскі | 4 | 0 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 2,3 |
| 9 | Быхаўскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 2 | 3 | 3 | 5 | — | — | — | 2,3 |
| 10 | Бягомльскі . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | 2 | 3 | 2 | 5 | — | — | — | 2,3 |
| 11 | Бялыніцкі . . . . | 3 | 0 | 5 | 4 | — | 3 | 3 | 5 | — | — | — | 3,3 |
| 12 | Бярэзінскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 3 | — | 3,1 |
| 13 | Веткаўскі . . . . | 3 | 4 | 0 | 5 | — | 5 | 2 | 4 | — | — | — | 3,3 |
| 14 | Ветрынскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 5 | 2 | 5 | — | — | — | 2,5 |
| 15 | Віцебскі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 4 | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 | — | 3 | 3,0 |
| 16 | Гарадоцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 2 | 2 | 5 | — | — | — | 2,1 |
| 17 | Глускі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 5 | 5 | — | — | — | 2,7 |
| 18 | Гомельскі . . . . | 3 | 0 | 5 | 4 | 3 | 3 | 2 | 5 | 0 | 5 | 5 | 3,2 |
| 19 | Горацкі . . . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | — | 4 | 0 | 5 | — | 2 | — | 2,1 |
| 20 | Грэскі . . . . . . | 3 | 4 | 0 | 4 | 3 | 5 | 4 | 5 | — | 2 | — | 3,3 |
| 21 | Даманавіцкі . . . | 3 | 4 | 0 | 4 | — | 5 | 2 | 4 | — | — | — | 3,1 |
| 22 | Дзяржынскі . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | — | 2 | — | 2,5 |
| 23 | Добрушскі . . . | 3 | 4 | 0 | 3 | 3 | 5 | 4 | 5 | — | — | 2 | 3,2 |
| 24 | Дрыбінскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 0 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 1,8 |
| 25 | Дрысенскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 5 | — | 4 | — | 2,6 |
| 26 | Дубровенскі . . . | 3 | 0 | 0 | 4 | 3 | 2 | 5 | 5 | — | — | 3 | 2,7 |
| 27 | Ельскі . . . . . . | 1 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | — | — | — | 4,8 |
| 28 | Жлобінскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | — | — | — | 3,1 |
| 29 | Журавіцкі . . . | 4 | 0 | 0 | 0 | 0 | 2 | 0 | 0 | — | — | — | 0,3 |
| 30 | Жыткавіцкі . . . | 2 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 5 | — | — | — | 4,4 |
| 31 | Заслаўскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 5 | 0 | 5 | 2 | 5 | — | — | — | 2,4 |
| 32 | Камарынскі . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 2,5 |
| 33 | Капаткевіцкі . . . | 2 | 4 | 4 | 3 | — | 3 | 3 | 5 | — | — | — | 3,6 |
| 34 | Кармянскі . . . . | 3 | 0 | 5 | 3 | 3 | 3 | 2 | 5 | — | — | — | 3,0 |
| 35 | Касцюковіцкі . . | 2 | 0 | 0 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | — | — | — | 3,5 |
| 36 | Кіраўскі . . . . | 2 | 0 | 5 | 5 | — | 5 | 4 | — | — | — | — | 3,8 |
| 37 | Клімавіцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 0 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 1,8 |
| 38 | Клічаўскі . . . . | 3 | 0 | 4 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 3,1 |
| 39 | Копыльскі . . . . | 2 | 4 | 0 | 5 | — | 5 | 3 | 5 | — | — | — | 3,6 |
| 40 | Круглянскі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | — | 4 | 1 | 5 | — | — | — | 2,1 |
| 41 | Крупскі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | — | 5 | 4 | 5 | — | — | — | 3,1 |
| 42 | Крычаўскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 2 | 3 | 3 | 2 | 3 | — | — | — | 1,8 |
| 43 | Лагойскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | — | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 2,5 |
| 44 | Лельчыцкі . . . . | 3 | 4 | 0 | — | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 3,1 |
| 45 | Лепель (горад) . | 4 | — | — | 3 | 3 | — | 0 | 0 | — | — | — | 1,5 |
| 46 | Лепель (раён) . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 4 | 3 | 3 | — | — | — | — | 2,5 |
| 47 | Лёзненскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 3 | 3 | 3 | 5 | -- | — | — | 2,7 |

## Ацэнка работы райінспек. наргасучота за сакавік м-ц 1937 г. (прац.)

| №№ па парадку | Назва раёнаў | Катэгорыя | Вядзенне кнігі асоўных паказчыкаў і дасылка ў КНГУ выпісак з яе | Праверка становішча пярвічнага ўчота ў сельсоветах | Учот працы: У прамыслов. | Учот працы: У будаўніцтве | Учот працы: У соўгасах і МТС | Складанне спісаў да адначасовага ўчота | Цэны калгасн. гандлю | Рэалізацыя сельгасп. прадуктаў на калгасных базарах | Бюджэты: Калгаснікаў | Бюджэты: Рабочых | Сярэдні бал |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 48 | Лоеўскі . . . . . | 2 | 0 | 4 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4 | — | — | — | 3,5 |
| 49 | Любаньскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 4 | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 3,0 |
| 50 | Магілеўскі . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | 2 | 5 | 1 | 0 | — | — | — | 1,7 |
| 51 | Мазыр (горад) . . | 3 | — | — | 5 | 2 | — | 4 | 0 | — | — | — | 2,7 |
| 52 | Мазыр (раён) . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 5 | 3 | 5 | — | 4 | — | — | 3,0 |
| 53 | Менск (горад) . . | 2 | — | — | 4 | 4 | — | 3 | 4 | — | — | 2 | 3,5 |
| 54 | Менск (раён) . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 2 | 4 | 2 | — | — | — | — | 1,8 |
| 55 | Мехаўскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 3 | 2 | 5 | 5 | — | — | 2,0 |
| 56 | Мсціслаўскі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 2 | 3 | 2 | 4 | — | — | — | 2,4 |
| 57 | Нараўлянскі . . . | 2 | 4 | 5 | 4 | 4 | 4 | 4 | 5 | — | — | — | 4,3 |
| 58 | Аршанскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 2 | 3 | 3 | 4 | — | — | — | 2,1 |
| 59 | Парыцкі . . . . | 3 | 0 | 3 | 3 | 3 | 3 | 2 | 5 | — | — | — | 2,7 |
| 60 | Петрыкаўскі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 0 | 3 | 4 | — | — | — | 1,8 |
| 61 | Плешчаніцкі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | — | 5 | 2 | 0 | — | — | — | 1,6 |
| 62 | Полацк (горад) . | 3 | — | — | 5 | 3 | — | 3 | 0 | — | — | — | 2,7 |
| 63 | Полацк (раён) . . | 3 | 3 | 0 | 4 | — | 3 | 3 | — | — | — | — | 2,6 |
| 64 | Прапойскі . . . . | 3 | 0 | 0 | — | 3 | 3 | 3 | 5 | — | — | — | 2,8 |
| 65 | Пухавіцкі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | — | — | — | 3,3 |
| 66 | Рагачоўскі . . . | 3 | 4 | 0 | 3 | 2 | 4 | 4 | 5 | — | — | — | 3,1 |
| 67 | Расонскі . . . . | 2 | 4 | 0 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | — | 3 | — | 3,5 |
| 68 | Рэчыцкі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 4 | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | 5 | 3,0 |
| 69 | Свяцілавіцкі . . . | 2 | 4 | 5 | 4 | — | 3 | 4 | — | — | — | — | 4,0 |
| 70 | Сенненскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | — | 4 | 3 | 4 | — | — | — | 2,3 |
| 71 | Сіроцінскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 4 | 4 | 3 | 5 | — | — | — | 2,7 |
| 72 | Слуцк (горад) . . | 3 | — | — | 3 | 3 | — | 1 | 5 | — | — | — | 3,0 |
| 73 | Слуцк (раён) . . . | 3 | 4 | 0 | 2 | 3 | 3 | 2 | — | — | 4 | — | 2,5 |
| 74 | Смалявіцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 2 | 1 | 4 | — | — | — | 1,8 |
| 75 | Смілавіцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 5 | 1 | 4 | — | — | — | 2,3 |
| 76 | Старадарожскі . . | 3 | 0 | 0 | 4 | 3 | 5 | 3 | 3 | — | — | — | 2,7 |
| 77 | Старобінскі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | 3 | 2 | 1 | 5 | — | — | — | 2,0 |
| 78 | Суражскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 4 | 2 | 5 | — | 3 | — | 2,5 |
| 79 | Талачынскі . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | 2 | 5 | 2 | 4 | — | — | — | 2,4 |
| 80 | Тураўскі . . . . | 2 | 4 | 0 | 4 | — | 5 | 3 | 5 | — | — | — | 3,5 |
| 81 | Уваравіцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 2 | 5 | 3 | 1 | 5 | — | — | — | 2,3 |
| 82 | Уздзенскі . . . . | 2 | 0 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | — | — | — | 3,8 |
| 83 | Ушацкі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 3 | 5 | 3 | 3 | 5 | — | — | — | 2,7 |
| 84 | Халопеніцкі . . . | 4 | 0 | 0 | 3 | — | 4 | 0 | 5 | — | — | — | 2,0 |
| 85 | Хоцімскі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 3 | 4 | 2 | 5 | — | — | — | 2,7 |
| 86 | Хойніцкі . . . . | 4 | 0 | 0 | 4 | 0 | 4 | 2 | 3 | — | — | — | 1,8 |
| 87 | Цэрахоўскі . . . | 4 | 0 | 0 | 2 | — | 3 | 2 | 3 | — | — | — | 1,6 |
| 88 | Чавускі . . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | — | 5 | 3 | 5 | — | — | — | 3,0 |
| 89 | Чачэрскі . . . . | 4 | 0 | 0 | 5 | — | 5 | 0 | 4 | — | — | — | 2,3 |
| 90 | Чашніцкі . . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 5 | 4 | 1 | 5 | — | 3 | — | 2,8 |
| 91 | Чырвонапольскі . | 2 | 4 | 0 | 4 | — | 5 | 4 | 5 | — | — | | 3,6 |
| 92 | Чырвонаслабодскі | 3 | 0 | 0 | 3 | 3 | 3 | 4 | 5 | — | — | — | 2,5 |
| 93 | Чэрвеньскі . . . | 4 | 0 | 0 | 2 | — | 2 | 2 | 5 | — | — | — | 1,8 |
| 94 | Чэрыкаўскі . . . | 3 | 0 | 0 | 5 | 5 | 5 | 0 | 5 | — | — | — | 2,8 |
| 95 | Шклоўскі . . . . | 3 | 0 | 4 | 5 | 4 | 3 | 1 | 5 | — | — | — | 3,1 |

